


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ
КРАЯЗНАЎЦАЎ
БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 3 (56)
САКАВІК
2007 г.


## 25 сакавіка - гадавіна абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі

**У нумары:**


- Памяці патрыётаў
- Выстава «Жывая археалогія»
- «Арганаўты мінулага» у пошуку
- Малюнкі з вайны 1812 г.





1918
2007













ЖАРАБЯ ІМЧЫЦЬ НАЎСКАПЫТА.
СТЫЛЫ ДОЛ ПАДКОВАЎ ШАЛ АБВУГЛІЎ.
НА ЗУБАХ ЖАЛЕЗНЫ ПРЫСМАК ЦУГЛЯЎ.
ВОЧЫ ЗАСЬЦІЦЬ ЗОРНАЯ СЛАТА.

ЖЭРАБЯ З МУРОЖНАЙ ДАЛАНІ
ЖАРАБЯ ЦЯГНУЛА ЦІ НЯ ЎЧОРА.
СЁНЬНЯ МАЛАДАЯ НЕПАКОРА
ЦЬВЕЛІЦЬ – ДУМКУ ВЕТРУ ДАГАНІ !

ЦУГЛІ ГНУЛІ, КАБ АКРЭСЬЛІЦЬ ЗЛОСЦЬ.
ЗУБЫ ЎПАРЦІЎ ГНЕЎ, КАБ ЦУГЛІ ГРЫЗЬЦІ.
ВОЛІ ЦІ НІКОЛІ, ЦІ КАЛІСЬЦІ НЕ БЫВАЕ –
ВОЛЯ ЁСЦЬ І ЁСЦЬ !

У ГЛУХОЙ ЦІ Ў РАДАСНАЙ СЬЛЯЗЕ.
ПОКУЛЬ ЗЬНІЧКІ СМУТКУ НЕ АТУХЛІ.
ЗАБАРОНАЙ ВЫГНУТЫЯ ЦУГЛІ
КОЖНЫ ЎПОТАЙ АД СЯБЕ ГРЫЗЕ.

РЫГОР БАРАДУЛІН

**Незалежніцкія каляндарыкі - зарубкі на шляху да Волі і Незалежнасці**

"Павет" ужо пісаў пра беларускага паэта і грамадскага дзеяча Латвіі Міколу Талерку і друкаваў беларускія паштоўкі з яго калекцыі. Краязнавец і калекцыянер з Даўгаўпілса Мікола Паўловіч, які збірае матэрыялы пра беларусаў Латвіі, захоўвае рэшткі асабістага архіва М.Талеркі. Некалькі дзесяткаў розных выданняў з яго бібліятэкі М.Паўловіч перадаў у Браслаўскі музей. Сярод папер паэта знаходзіцца "Кніжка дат". У ёй ёсць некалькі запісаў, якія тычацца Браслаўшчыны. Падаем іх:

*20.3.1917 г. Пріказам Начальніка Смаленскага паштова-тэлеграфнага вокруга быў назначан чыноўнікам у м.Браслаў.*
*27.7.1917 г. Нямецкі аэраплан кідаў бомбы і блізу што не забіў.*
*1.10.1917 г. Пераве́ўся па прызначэньню ў Прыдруйск.*
*1918 г. Немцы бяруць Прыдруйск, я застаюся.*
*. . .*
*8.1919 г. Палякі наступаюць да Прыдруйска, я некалькі разоў пападаюс пад абстрэл. Друя, Прыдруйск гараць.*

Яшчэ на адным аркушы паперы згадваецца аматарская пастаноўка ў карчме.

Біяграфічны нарыс пра М.Талерку і нізка яго вершаў уключаны ў зборнік "Крывіцкія руны. Беларускія пісьменнікі Латвіі". Мінск.2003. Дарэчы, адзін з вершаў быў напісаны ў Браславе.




**Першы нумар часопіса «На чужыне» (сакавік 1920 г.) з архіва М.Талеркі**

У зборах М.Талеркі зберагліся рэдкія беларускія выданні, у т.л. часоў станаўлення Латвійскай рэспублікі. Частка іх перайшла ў калекцыю М.Паўловіча. Сярод іх першы нумар часопіса "На чужыне", выдадзены ў Рызе, у сакавіку 1920 г. У нумары змешчаны верш Янкі Купалы і патрыятычны верш, падпісаны "Бацька". Гэтым псеўданімам падпісваўся генерал Станіслаў Булак-Балаховіч, адзін са славутых нараджэнцаў Браслаўшчыны, герой Народнай Беларускай Рэспублікі.

## Думкі беларуса на чужыне

*Я ад вас далёка, бацькоўскія гоні, -*
*На чужое небо ужо гляджу сягоньня,*
*Але думкай, сэрцэм толькі вас я знаю;*
*Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.*
*І німа на сьвеце так вялікай меры,*
*І німа на сьвеце так каваных дзьвераў,*
*Каб хоць на часіну ў будні, ці ў нядзелі*
*Беларусь са мною разлучыць пасьмелі.*

*Я ад вас далёка ... А дзе ні гляджу я,*
*Дома толькі думка днюе і начуе;*
*Знаю толькі пушчы Белавежскай гоман,*
*Знаю толькі рэчку – с плытнікамі Нёман.*
*Дзе ў чужыне будзе сад так гадаваны,*
*Дзе такі там хорам важна збудаваны,*
*Што мне замяніў-б хату і бярозкі,*
*Хату і бярозкі беларускай вёскі...*

*Я ад вас далёка ... Дзеліць нас паўсьвета, -*
*А жыву-ж я з вамі і зіму і лета;*
*Чую з вамі ў восень непагоды песьню,*
*Цешуся з прапалін вольнага прадвесьня.*
*І ці сонцэ ўзойдзе, і ці сонцэ зайдзе, -*
*Вечна з думкай там я, мой спакойны край дзе;*
*З выраю-ж як толькі сустрэчаю гусі,*
*Весьці ў іх пытаю з роднай Беларусі.*

*Я ад вас далёка ... Жыву меж чужымі,*
*Чую-ж вашы песьнІ, - вотклік шлю сваімі;*
*Дабываю песьні ад душы, ад сэрца,*
*Аж-бы сам за імі к вам ляцеў, здаецца.*
*Не зрабіць нікому гэткай дамавіны,*
*І ня вырыць ямы гэтакай глыбіны,*
*Каб у іх з вачэй мне Беларусcю-маці,*
*Як людзей хаваюць, гэтак пахаваці.*

*Я ад вас далёка ... Божэ ты мой мілы!*
*Неразлучны з вамі да самай магілы,*
*Не пакіну думаць сьвітамі ў пацёмку,*
*Як там жывеце вы, як жыве старонка.*
*А хоць дасьць мне доля ў дамавіне мейсца, -*
*Ўстане цень з зямлі мой, на крыж абапрэцца*
*І ў той бок глядзеці будзе век нязводна,*
*Гдзе лежаць загоны Беларусі Роднай.*

**Янка Купала**

## Покліч Бацькі

**Праз цёмныя хмары на чуждай старонцэ**
**Зірнула на нас цёпла-роднае сонцэ,**
**І гоман пачуў я з радной стараны:**
**"Свабода калоціцца ў пашэ наконцэ,**
**За Бацькаўшчыну ўсталі яе ўсе сыны!"**
**Сынкі! А мы што-жа?**
**Нам будзе ня гожа,**
**Каб мы не найшлі на падмогу**
**Сьмялей, не аглядайцесь,**
**Хутчэй сабірайцесь**
**І будзем гатовы ў дарогу!**

**25.11.1919 г. Бацька**
**Рэвель**

*У "Краязнаўчай газеце" №45 за 2006 г. быў змешчаны матэрыял, прысвечаны памяці шчырага беларуса Міколы Канаша, у якім указана, што яго малая радзіма – Браслаўшчына. Мы пакуль нічога не ведаем пра нашага земляка, акрамя таго, што напісаў аўтар зацемкі. Прапануем яе перадрукоўку.*

* * * * *

Не стала Міколы Канаша – былога сябра беларускай паэтэсы Ларысы Геніюш, шчырага беларуса і проста цудоўнага чалавека. У лютым 2006 г. ён адзначыў свой 80-гадовы юбілей. Негледзячы на слабое здароўе, да апошняга трымаўся бадзёра. Але смерць не прымусіла сябе чакаць.

Нарадзіўся Мікалай Іпалітавіч Канаш у 1926 годзе на Браслаўшчыне. У 1943-44 гады вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай гімназіі. Ужо тады праявіў сваю нацыянальную свядомасць. За гэта ў 1948 г. быў арыштаваны і асуджаны на 25 гадоў. Тэрмін свайго зняволення адбываў на шахтах у Комі АССР (Інта). Там і адбылося яго знаёмства з Ларысай Геніюш, якое перарасло ў шчырае сяброўства – да самой смерці паэтэсы ў 1983 г.

У 1973 г. М.Канаш пераехаў на сталае жыццё у Жлобін. Працаваў будаўніком. У пачатку 1990-х гадоў актыўна ўключыўся ў грамадскае жыццё Жлобіншчыны. Быў адным са заснавальнікаў раённага аддзялення Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, частав выступаў перад моладдзю, прапагандаваў роднае слова.

Тады, у 1990-я гады, кватэра М.Канаша стала месцам сапраўднага паломніцтва для тых, хто любіў Беларусь. Тут пабывалі імногія пісьменнікі, даследчыкі беларускай літаратуры, вядомыя грамадскія дзеячы. У іх ліку можна назваць Уладзіміра Арлова, Міхася Скоблу, Вольгу Куртаніч, іншых. Ён ахвотна дзяліўся сваімі ўспамінамі, перадаў шмат каштоўных матэрыялаў ( у асноўным яны тычыліся Ларысы Геніюш). Больш падрабязна аб гэтым можна даведацца у кнігах: "Споведзь" Ларысы Геніюш (Мн., 1993), "Вяртанне да ... Беларусі" Алеся Карлюкевіча (Мн., 1994), зборніку эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш "Каб ведалі" (Мн., 2005), іншых.

У 1992 годзе Міколу Канаша афіцыйна рэабілітавалі. А ў хуткім часе яму выдана і пасведчанне ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны. Ён быў шчыра рады, што дачакаўся справядлівасці яшчэ пры жыцці.

... Вечная яму памяць.

*Мікалай Шуканаў, г.Жлобін*

# Яшчэ адна версія паходжання назвы Відзаў

Куды толькі мяне не закідваў лёс! Крайнія межы маіх вандровак – Уладзівасток і Львоў, Ленінград (Санкт-Пецярбург) і Сухумі. А паміж імі аказаліся ў зоне маіх прыцягненняў звычайныя, як гавораць адны, і незвычайныя, як сведчаць другія, Відзы. У самім гарадку і яго наваколлях ад людзей мне прыходзілася чуць некалькі версій паходжання назвы гэтай цудоўнай мясціны.

Пераказваць іх, як мне здаецца, няма сэнсу, бо яны агульнавядомыя. А зусім нядаўна патрапіў на запіс гутарак з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР, буйнейшым беларускім энцыклапедыстам, зараз нябожчыкам Якавам (Якубам) Адамавічам Якубоўскім, які пасля вайны жыў, навучаўся ў гарадскім пасёлку Відзы і нават потым навучаў у наваколлі дзетак у школах. Дык гэты мудры беларускі татарын 17 верасня 1994 года, падчас гасцявання ў мяне, згадаў, што, мабыць, Відзы маюць сваё паходжанне ад іншамоўнага слова **"Witzi"**, якое бярэ пачатак ад аднаго са славянскіх народаў, якое ў асяродку нашых далёкіх продкаў асэнсоўвалася з ваўкамі.

Зусім нядаўна перагортваючы славутую кнігу Юркі Віцьбіча "Плыве з-пад святое гары Нёман" патрапіў на яго радкі: "... (...) што ў ангельскіх, нямецкіх і скандынаўскіх навуковых крыніцах Беляны – Люцічы мянуюцца, як **Wilzi, Witzi** (падкрэслена мною – М.М.), Wilsi". Далей аўтар піша аб іх, як аб "кроўных сваяках Крывічоў – Велятах – Люцічах – Ваўках".

Як мне здаецца, мясцовыя ваўкі па сваіх якасцях у наваколлі былі атоеснены з прышлымі вітзенямі і месца іх усталявання на гары займела беларускую назву Відзы.

Праўда, на картах 1812 года расейскіх картографаў нашы Відзы мелі найменне "Виды", але потым усё вярнулася на мінулыя рэйкі – Відзы.

А гутарка пра версію назвы Відзаў з Якавам (Якубам) Адамавічам якраз мне ўспомнілася ў красавіку, у 75-ю гадавіну з дня нараджэння гэтага Слаўнага і Вялікага Чалавека!

*Міхась Маліноўскі, правадзейны член Геаграфічнага таварыства, г.Баранавічы*

*Ад рэдакцыі*: **Міхась Маліноўскі** - вядомы беларускі краязнавец, аўтар шматлікіх публікацый, у тым ліку некалькіх кніг. Спадар Міхась даўні чытач нашага выдання. З радасцю публікуем яго першы (спадзяемся, не апошні) матэрыял, напісаны адмыслова для «Павета».

## *Славутыя земляки*

Часопіс "Кантакты і дыялогі" Міжнароднай асацыяцыі беларусаў у № 7-8 за 1997 год змясціў развітальную зацемку памяці Кшыштафа Навіцкага, польскага паэта, празаіка. Прыводзяцца сціплыя звесткі пра яго жыццё. Нарадзіўся К.Навіцкі 6 сакавіка 1940 г. у Опсе. Закончыў факультэт польскай філалогіі Торуньскага ўніверсітэта. Працаваў у рэдакцыях часопісаў, на радыё. З'яўляўся аўтарам некалькіх кніг паэзіі, апавяданняў, нарысаў, а таксама рэпартажаў. Уваходзіў у Саюз польскіх пісьменнікаў і ПЭН-клуб. Лаўрэат прэміі імя Станіслава Пентака. Памёр Кшыштаф Навіцкі 28 сакавіка 1997 года ў горадзе Быдгашчы.

*Выставы*

# ЖЫВАЯ АРХЕАЛОГІЯ

*Значнай падзеяй у культурным жыцці Браслава стала адкрыццё ў выставачнай зале Музея традыцыйнай культуры экспазіцыі "Жывая археалогія". Гэтым тэрмінам называюць той кірунак эксперыментальнай археалогіі, які арыентаваны на дэманстрацыю для гледача даўніх тэхналогій, заняткаў, ладу жыцця, адноўленыя паводле археалагічных матэрыялаў. "Жывая археалогія" можа быць выкарыстана пры правядзенні адмысловых фестываляў, дзіцячых летнікаў, разнастайных імпрэз, у музейнай працы. Рух "жывой археалогіі" вельмі папулярны ў многіх еўрапейскіх краінах. Пачынае пашырацца ён і ў Беларусі. Браслаўскае кола аматараў "жывой археалогіі" — адно з самых прадстаўнічых у нашай краіне. У яго ўваходзяць не толькі супрацоўнікі браслаўскіх музеяў, але і людзі іншых заняткаў, прычым, не абавязкова з Браслава. У Браславе назапасіўся даволі значны досвед працы ў накірунку "жывой археалогіі". Сталі традыцыйнымі "Святы рамёстваў", экспазіцыйны комплекс "Крывіцкае паселішча XI — XIII стст.", кожны сезон прымаем удзел у розных фестывалях на тэрыторыі краін Балтыі, Польшчы, ёсць таксама досвед удзелу ў розных дзіцячых летніках.*



*І вось цяпер зроблены наступны крок — створана экспазіцыя выставы "Жывая археалогія", якая найбольш поўна раскрывае кола зацікаўленасці аматараў "жывой археалогіі". Аўтарамі канцэпцыі з'яўляюцца супрацоўнікі музейнага аб'яднання Валерый Зінкевіч і Кастусь Шыдлоўскі.*

*Ніжэй у "Павеце" прадставім толькі кароткі агляд таго, што змешчана на выставе. Перадусім выставу трэба ўбачыць. Улічваючы яе ўнікальнасць, вырашана прадоўжыць тэрмін дзеяння экспазіцыі на ўвесь летні сезон.*

*Урачыстае адкрыццё выставы "Жывая археалогія" адбылося 23 лютага. Да гэтай падзеі была прымеркавана навукова-краязнаўчая канферэнцыя. Праграма дня ўключала прэзентацыю выставы, яе абмеркаванне, даклады і выступленні ўдзельнікаў канферэнцыі, сяброўскую вечарыну ў даўнім стылі з агнявымі забавамі. Матэрыялы канферэнцыі мяркуецца апублікаваць асобным зборнікам.*



**Праграма**
**навукова-краязнаўчай канферэнцыі "Навейшыя археалагічныя даследаванні Браслаўшчыны і пытанні "жывой археалогіі". 23 лютага 2007г.**

$10^{00}$ - **Прэзентацыя экспазіцыі выставы "Жывая археалогія".** Выставачная зала Музея традыцыйнай культуры.

$12^{00}$ - **Даклады і выступленні удзельнікаў канферэнцыі.** "Зала музейнай педагогікі ў будынку Музея традыцыйнай культуры".

Прэзентацыя накірункаў дзейнасці аматараў "жывой археалогіі" пры Браслаўскім музейным аб'яднанні (відэапраект Аляксандра Панцялейкі).

**Аляксандр Егарэйчанка**, *загадчык кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін гістарычнага факультэта БДУ, кандыдат гістарычных навук. Мінск.* Кераміка эпохі позняй бронзы і жалезнага века з гарадзішча Рацюнкі.

**Мікалай Плавінскі**, *вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Мінск.* Даследаванні курганнага могільніка Пагошча ў 2005-2006г.

**Віталь Сідаровіч**, *старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Мінск.* Каменныя свідраваныя сякеры са збору Браслаўскага музейнага аб'яднання.
**Ніна Бабровіч**, *навуковы супрацоўнік Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Віцебск.* Рэканструкцыя фрагмента плеценай тканіны з курганнага могільніка Пагошча.
**Сяргей Бабенка,** *навуковы супрацоўнік Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Віцебск.* Сцяпны даспех з Біркі. Некаторыя тэхналагічныя асаблівасці рэканструкцыі.
**Вітаўт Ермалёнак**, *настаўнік гісторыі СШ №3 г.Мёры, кіраўнік школьнага музея і пошуковага клубу "Арганаўты мінулага". Мёры.* Археалагічныя разведкі ў наваколлі вёскі Слабодка.
**Антон Ермалёнак,** *студэнт III курса гістарычнага факультэта БДУ. Мінск.* Новыя знаходкі археалагічных помнікаў на Мёршчыне.
**Віктар Бунто,** *настаўнік геаграфіі Канстанлінскай БШ. Пагошча.* Археалагічная дзейнасць краязнаўцаў Канстанлінскай школы.
**Міхаіл Ставішкі**, *настаўнік гісторыі Друйскай СШ, кіраўнік школьнага музея. Браслаў.* Спроба прачытання надпісу на Друйскім Барысавым камяні.
**Валерый Зінкевіч**, *навуковы супрацоўнік Музея традыцыйнай культуры. Браслаў.* Спроба рэканструкцыі некаторых тэхналагічных прыёмаў вырабу старажытнай керамікі.
**Людміла Пупіна**, *кіраўнік гуртка "Старадаўнія заняткі" ЦПП "Маяк". Мінск.* Тэхналогія вязання іглой.
**Элеанора Зінкевіч,** *загадчыца Музея традыцыйнай культуры. Браслаў.* Рэканструкцыя тэхналогіі прыгатавання ежы ў перыяд позняга жалеза і ў раннім сярэднявеччы.
**Кастусь Шыдлоўскі,** *навуковы супрацоўнік гістарычна-краязнаўчага музея. Браслаў.* Некаторыя прыёмы і спосабы вырабу і ўжывання старажытных прылад пісьменства.

У прэзентацыі выставы і працы канферэнцыі таксама удзельнічаюць: Ірына Шыдлоўская, Аляксандр Курбан, супрацоўнікі Браслаўскага музейнага аб'яднання, Насця Зінкевіч, Альгерд Селях, навучэнцы Браслаўскай гімназіі, Эмілія Шавэла, настаўніца Дрысвяцкай СШ, кіраўнік краязнаўчага гуртка. Уладзімір Аляксееў, настаўнік Літоўшчынскай БШ, Ганна Несцерава, кіраўнік гуртка "Гістарычны танец" ЦПП "Маяк"(Мінск), Аляксей Бурнасенка, кіраўнік гуртка "Шпільманы" ЦПП "Кантакт" (Мінск), Мікола Паўловіч, калекцыянер, збіральнік (Даўгапілс.Латвія)

# Кароткі агляд экспазіцыі выставы



На выставе асобнымі камплектамі прадстаўлены копіі археалагічных знаходак, зробленых рукамі браслаўскіх аматараў "жывой археалогіі". Некаторыя экспанаты перададзены для выставы калегамі з Польшчы і Латвіі Пятром Дмахоўскім (Познань), Збігневам Дольскім (Біскупін), Гжэгажам Пілярчыкам (Познань), Войцехам Кохманам (Варшава), Гацісам Старплесам (Рыга). Ёсць таксама арыгіналы з фондаў Браслаўскага музейнага аб'яднання.

Комплекс "Часовае жытло неаліту і бронзавага веку" складаецца з інсталяцый інтэр'ера жытла, насычанага рознымі прыладамі і прыстасаваннямі. Можна ўбачыць каменныя сякеры, якія падрыхтаваны да працы і пакарыстацца імі. Экскурсавод пакажа, як шліфуюцца сякеры, свідруюцца ў іх адтуліны, азнаёміць з калекцыяй сякер са збораў музея.



Комплекс "Ганчарства жалезнага веку" уяўляе сабой працоўнае месца ганчара з наборам вырабаў, характэрных для дадзенага часу.

Комплекс "Апрацоўка зерня" дэманструе, якія прылады для атрымання мукі існавалі ў жалезным веку і сярэднявеччы. Найбольш старажытнай з іх – зерняцёркай, якой звыш 2000 гадоў, можна пакарыстацца. Прадстаўлены жорны XVI – XVIII стст., калекцыя зерневых. Да гэтага комплекса адносіцца і рэканструкцыя прэса, кшталту знойдзенага ў Брэсце ў пластах XII – XIII стст., з дапамогай

якога атрымлівалі алей з прыгатаванага льнянога семені.

Комплекс "Ачаг і даўняя кухня", складаецца з паменшанай рэканструкцыі аднаго з ачагоў, знойдзеных пры раскопках гарадзішча Рацюнкі. У ачагу і побач разнастайнае начынне, у якім гатавалі ежу. Падчас экскурсіі паказваюцца спосабы здабывання агню.

Комплекс "Ткацтва, прадзенне, пляценне, строі". Тут вельмі цікавы матэрыял – прыклад рэканструкцыі тканіны XI ст., знойдзенай пры раскопках аднаго з курганоў пад Браславам. Прадстаўлены таксама вертыкальны ткацкі станок, прадзенне з дапамогай праселак, узоры пляценняў іголкай, прылады для ткання паясоў, а таксама прыблізныя рэканструкцыі строяў дзяўчыны і мужчыны XI – XII стст.

Комплекс "Ювелірныя вырабы" складаецца з разнастайных аздоб мужчынскіх і жаночых строяў з бронзы і серабра працы адмыслоўцаў з Полычны. Выстаўлены і некаторыя прылады працы даўняга ювеліра.

Комплекс "Даўняе пісьменства" знаёміць з пісьмом на васковых таблічках з дапамогай пісал ці стыляў, на кавалках бяросты і на костках жывёл. Прадстаўлена цэлая калекцыя пісал і таблічак, якімі можна пакарыстацца.

Комплекс "Апрацоўка дрэва" знаёміць з даўняй прыладай працы разьбяра. Паказваецца ў дзеянні рэканструкцыя ручнога станка для вырабу верацёнаў. Шмат вырабаў з дрэва – рэшткі археалагічных знаходак. Прыцягвае ўвагу даўні човен, знойдзены ў возеры Іказнь пад замкам XVI – XVII стст. Падобнага тыпу човен, але меншага памеру, быў зроблены і выпрабаваны на адным з археалагічных летнікаў.

Цэнтральнае месца ў экспазіцыі займае прыстасаванне для здабычы рытуальнага агню. Дэманстрацыя здабычы агню – вельмі прыгожае відовішча, якое выклікае зацікаўленасць ва ўсіх імпрэзах з удзелам браслаўскіх аматараў "жывой археалогіі".

**Вітаўт Ермалёнак, Мёры.**
**Кіраўнік гуртка «Арганаўты мінулага»**

# "Арганаўты мінулага" у пошуку



### Курган у Стэфанполлі

Нават археолагу-аматару пачутае паданне пра тое, што нібыта вясковыя могілкі размешчаны на кургане, дае магчымасць праверыць інфармацыю. Таму гурткоўцы не зважаючы на дождж, шпарка накіраваліся на могілкі. Візуальнае даследванне (не капаць жа могілкі), праведзенае краязнаўцамі, дазволіла ўпэўнена выказаць гіпотэзу – пагорак на якім размешчаны могілкі, з'яўляецца гарадзішчам жалезнага веку. Аб гэтым пераканаўча сведчаць: наяўнасць культурнага пласту і чорнай зямлі, выразна праслежваецца наяўнасць вала, пляцоўкі. Яно размешчана побач з штучным вадаёмам, а дзве тысячы гадоў назад тут было возера. Гарадзішча мае тыповые абрысы характэрныя для позняга этапу жалезнага веку II-V стст. У тыя часы наш край, па вызначэнню вучоных-археолагаў, насялялі плямёны днепра-дзвінскай культуры. Далей наш шлях ляжаў на месца былой вёскі Стэфанполле. Тут мы вырашылі стаць лагерам для правядзення далейшых пошукаў.

### Былое паселішча

Паставіўшы намёты, распаліўшы вогнішча, каб было дзе прыгатаваць абед і прасушыць адзенне, не гледзячы на несупынны дождж, краязнаўцы прыступілі да выканання пастаўленных задач. Канешне, праведзеная тут меліярацыя значна зменшыла верагоднасць нашых знаходак і адкрыццяў. Але не дарэмна дэвіз нашага гуртка гучыць так: "Шукаць і знаходзіць!". Перш за ўсё пачалі з толькі што абаранага поля. Цяжка было хадзіць па ямінах, гліна наліпаўшая на боты здаецца як магніт, застаўляючы кожны крок рабіць з вялізным напружаннем. Спатрабавалася некалькі гадзін пошукаў, каб пайшлі знаходкі, якія нам дапамаглі лакалізаваць месца былых вёсак і хутароў Стэфанполле. На гэтым месцы, дзе зараз звычайнае калгаснае поле, на якім дзесяткі год працуе разнастайная тэхніка, ў 30-е гады XX стагоддзя віравала жыццё. У в.Стэфанполле ў 1930 г. было 26 жыхароў, якія валодалі 23 дзесяцінамі зямлі, а на стэфанпольскіх хутарах, якія былі заселены асаднікамі (былымі ўдзельнікамі вайны), пражывала 297 жыхароў на 2503 дзесяцінах зямлі. Не гледзячы на меліярацыю, калгаснае поле падаравала нам шматлікія знаходкі, якія сведчылі аб тым, што паселішчы існавалі тут не менш 500 год назад, не пазней XVI стагоддзя. Аб іх не згадваецца ў дакументах таго часу, але кавалкі звычайнага глінянага посуду пераканаўча аб гэтым

сцвярджаюць. Асабліва шмат знойдзена прадметаў матэрыяльнай культуры XIX –першай паловы XX ст. Здзівіла велізарная падкова, якіх зараз не ўбачыш, пярсцёнак і шмат іншых рэчаў.

## Рэшткі Пакроўскай царквы

У 20-е гады XX ст. Стэфанпольскі праваслаўны прыход налічваў амаль 3000 вернікаў, і малітоўны дом, які існаваў у той час у Стэфанполлі, не мог і блізка змясціць прыхаджан. І таму малады святар Нічыпар Майсяёнак (дзед знакамітага прафесара і краязнаўцы з Гродна Андрэя Майсяёнка) атрымаў дазвол на будаўніцтва і перавоз храма з Дзісны. Праект перабудовы выкананы дзісенцам Васілём Кошалем, прарабам быў будаўнік Леўша з Друі, якому дапамагалі мясцовыя майстры Мікола Мішута і Майсей Гмыза, мясцовы войт і царкоўны стараста Паўла Мішута, каваль Пучкоўскі. Менш чым за паўгода храм ў Стэфанполлі быў перавезены і адбудаваны. 14 кастрычніка 1931 г., на свята Пакрова, царква была асвечана і атрымала назву Пакроўскай. Пазней прыходскім святаром быў прызначаны Мікола Лапіцкі, выпускнік Віленскай духоўнай семінарыі і багаслоўскага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта. З такой адукацыяй не так і многа было праваслаўных святароў. Накіравалі яго на ўскраіну Віленшчыны за яго дзейнасць па беларусізацыі праваслаўнай царквы. У гады вайны за гэту дзейнасць яго ледзь не растралялі немцы, а потым партызаны. Пасля вайны ён узначальваў Беларускую праваслаўную царкву для бежанцаў у замежжы. Пазней эміграваў у ЗША, дзе быў прызначаны біскупам Беларускай праваслаўнай царквы для беларусаў Паўночнай Амерыкі. М.Лапіцкі з'яўляўся заснавальнікам прыходу Святой Еўфрасінні ў Саўт-Рыверы, актыўна ўдзельнічаў у беларускім жыцці, выдаваў часопіс "Беларускі светач", пісаў артыкулы ў "Беларускую думку", "Беларускае слова". Памёр у ЗША 6 жніўня 1976 г.

У тыя часы храм уяўляў прамавугольную ў плане пабудову з двума вежамі: вышэйшая, двух'ярусная з чацверыковым барабанам, меньшая – размешчана на пяціграннай апсідзе. Фасады расчлянены вертыкальнымі сцяжкамі і высокімі прамавугольнымі вокнамі з ліштвамі. Унутраная прастора падзелена іканастасам на алтарную частку і залу. На жаль гэтага мы зараз не ўбачым. Праваліўшаяся страха, адарваныя дошкі-шалёўкі, разламаная алтарная частка, раскурочаны бабінец. Царква, якая маляўніча глядзелася на пагорку, зараз схавалася ў гушчары дрэваў і хмызняку. Былі спробы яе ратаваць, перавезці пад Мінск ў Музей беларускай архітэктуры і побыту. Можна было б перавезці ў Мёры і наш райцэнтр атрымаў бы тады цікавы помнік архітэктуры, якога так не хапае ў нашым горадзе. Але гэтым намерам не наканавана было здзейсніцца. Хоць здаецца сам Гасподзь ратаваў яе для людзей.

## Могілкі ў Акунёва

Яшчэ адно адкрыццё чакала нас пры даследванні магільніка ля вёскі Паплавы. Размешчаны на высокім беразе ракі Ельнянкі, ён мае насычаны культурны пласт. Праўда праводзіць шурфоўку мы не маглі, таму пакуль што і гэта адкрыццё можна лічыць толькі гіпотэзай. Калісь тут хавалі мясцовую шляхту, таму як і паўсюдна, тут раскурочаны надгробкі – магілы пашкоджаны шукальнікамі скарбаў. Пачытаем знаёмыя з архіўных крыніц прозвішчы і імёны мясцовай шляхты. Аляксандр Станкевіч (1856-1920). Так яго нашчадкі ў даваеннай Польшчы Станкевіч Альбін і Станкевіч Вацлаў валодалі Пагулянкай і Ганусавым. Аляксандр Руткевіч (1826-1910). Яго нашчадкі – Руткевіч Вінцэнт валодаў Якубовым, Уладзіслаў – Юзэфовым, Разалія – Новажынцамі. Тут жа пахаваны іншыя з сям'і Руткевічаў: Марыя з Дрэлінгаў-Руткевіч (1839-1902), іх дачка Аляксандра па мужу Пашкевіч (1869-1923), сястра Аляксандры Анеля. Тут жа пахаваны род Якавіцкіх. Спа-дзяёмся, іх праўнучка, якая жыве ў Англіі і нядаўна прыязджала ў Беларусь, не пабачыла жудасны стан магіл сваіх продкаў. Ёсць яшчэ магілы Чаплінскіх, і просты камень з жалезным крыжам і адным імем Ян. Але нас найбольш зацікавіў крыж са скразной адтулінай пасярэдзіне шырынёй 10 см. Ён па сваёй форме нагадвае старадаўнія хрысціянскія крыжы X-XIII ст.

## Месца былой сядзібы ў Якубове

Апошняя наша мэта – вывучэнне былой сядзібы Руткевічаў ў Якубаве. Нажаль, толькі былой. Пасля вайны тут месцілася лячэбніца, амбулаторыя, кватэры калгаснікаў. Вось вам і развіццё турызму, а калі дайсці да справы, то ў апошнія гады знішчаны шэраг гістарычных помнікаў, якія маглі б прывабіць турыстаў: Святапакроўская царква, Акунёўская школа, і апошні ў наваколлі панскі маёнтак. Вывучаючы рэшткі былой сядзібы мы знайшлі дахоўку з надпісамі заводаў Медунецкага ў Горках, Літвінава і самы знакаміты на ўсю Польшчу завод Аскеркаў ў Азярцах. Знаходка вялікай белай кафлі віцебскага завода Гарбузава, заснаванага ў 1794 г., іншыя знаходкі, сведчаць аб тым, што сядзіба існавала з другой паловы XIX ст. З Якубова паходзіць і лётчык Янчэўскі, які загінуў змагаючыся з фашыстамі ў небе Англіі.

## Месца бою 1812 года

З архіўных крыніц мы ведалі, што 12 ліпеня 1812 года па дарозе з Шаркаўшчыны на Дзісну Елізаветградскі полк пад камандаваннем Леантовіча разбіў у начным баі французскі атрад і захапіў у палон 75 салдат. 15 ліпеня рота 6-га пяхотнага палка генерала Палена корпуса Дахтурава вяла перастрэлку ля вёскі Стэфанполле. Праводзячы агляд мясцовасці мы звярнулі ўвагу на роў. Напэўна гэта старое рэчышча, якое перасякала старую дарогу на Шаркаўшчыну. Зручнейшага месца ў наваколлі Стэфанполля для засады цяжка было б адшукаць. Уважлівы пошук і знаходкі рэшткаў зброі 1812 года падцвярджаюць нашу гіпотэзу аб тым, што тут адбыўся бой рускіх войскаў з французамі.

Сабраныя пад час вандроўкі сябрамі гуртка "Арганаўты мінулага" матэрыялы будуць яшчэ раз апрацаваны і прааналізаваны ў гістарычным музеі Мёрскай СШ №3.

# Ілюстрацыі да вайны 1812 года на Браслаўшчыне

*На старонках зборніка матэрыялаў навукова-краязнаўчай канферэнцыі "Браслаўскія чытанні – 2000" (Браслаў, 2001 г.) і пазней, у "Павеце", друкаваліся ілюстрацыі з кнігі Фабэра дзю Фора "Напалеон у рускай кампаніі 1812 года". Малюнкі да гэтай кнігі выконваў маёр фон Каўселер, удзельнік паходу ў складзе корпуса М.Нэя. З Браслаўшчынай і сучаснай Мёршчынай звязваліся тры сюжэты. Пры больш уважлівым разглядзе ўсяго матэрыялу аказалася, што да гісторыі Браслаўшчыны можна аднесці яшчэ два малюнкі.*

*Найбольш цікавы першы з іх, на якім адлюстраваны французы на конях, якія гоняць перад сабой канфіскаваную ў мірных жыхароў жывёлу. На заднім плане – збудаванні мястэчка з драўляным касцёлам. Цікава, што гэтую ілюстрацыю можна ўбачыць у некаторых беларускіх выданнях, прысвечаных вайне 1812 года з подпісам "Французскія марадзёры ў Беларусі". У кнізе малюнак адносіцца да паселішча Казачызна. Гэтае паселішча, былое мястэчка, знаходзілася ў складзе Браслаўскага павета. Цяпер яно ў складзе Літвы (на паўднёвы захад ад Дукштаса).*

*Ад Казачызны корпус Нэя рухаўся ў бок Дрысвятаў, далей на Опсу і да Браслава. На гэтай дарозе ёсць вёска Янулі (наваколле Опсы) і вёска Янулайцы (каля Рымшанаў, у сучаснай Літве). З Янулямі звязаны другі сюжэт. Напэўна, перавагу трэба аддаць Янулям з опсаўскага наваколля. Перадрукоўваем два новыя сюжэты з кнігі дзю Фора і тэксты да іх у перакладзе Уладзіміра Кандрусевіча (Мінск).*



## У ваколіцах Казачызны

Армія пераправілася праз Нёман з 20-дзённым харчовым запасам з разлікам дасягнуць Вільні і мець там вырашальную бітву. Такім чынам абоз харчавання мог бы ісці следам, а канчатковая перамога зрабіла б астатняе. Але непрадбачанае адступленне рускіх змяніла сітуацыю. Зрабіць прыпынак, каб дачакацца падвозу харчавання азначала б адмовіцца ад мажлівасці тэрміновым праследаваннем перашкодзіць аб'яднанню арміі Барклая дэ Толі і Баграціёна. Паспешна прасоўваючыся, 400 000 чалавек апынуліся без харчовага запасу, дзень за днём, марш за маршам, па здратаванай сябрамі і ворагамі зямлі, і без таго неапрацаванай , якая калісьці ледзь магла пракарміць жменьку шведаў Карла XII. Між іншым галоўная калона пакутавала ад асаблівых загадаў Імператара, пры якой таксама знаходзіўся 3 корпус арміі, які рухаўся наперадзе па вялікай дарозе, на якой усё ўцалелае пасля спусташэння адступаючымі рускімі збіралася французскім авангардам. Вымушаныя здабываць харч падчас маршаў, палкі арганізоўвалі мабільныя часткі, якія яны кожны дзень перад адыходам з біваку адсылалі ў наваколле справа ці злева ад дарогі, яшчэ не кранутае праходзячымі часткамі, з загадам захопліваць усё ядомае, што яны знойдуць і, суправаджаючы армію ўбаку на адлегласці некалькіх гадзін, па магчымасці вяртацца ў палкі ўвечары. Гэтыя часткі спрасцілі сабе задачу – з большага дзякуючы маленькім сялянскім коням, на якіх перакладвалі груз, калі немажліва было правезці воз. Сілкаваліся вечарамі ў біваку, і тыя, якіх адпраўлялі за рэквізітам былі відаць атакаваныя з усіх бакоў, і яны звычайна, замест таго, каб суправаджаць цяжка наладаваных коней, сядалі самі на паклажу.

## У ваколіцах Янулёў.

З кожным днём узнаўляліся гэтыя хваляванні і турботы, і гэтыя сцэны паўтараліся сотні разоў, але заўсёды ў іншым абліччы. Амаль з упэўненасцю можна было сказаць, што пры кожным хоць трохі значным харчовым паступленні знаходзіўся габрэй у якасці спадарожніка, кіруючага і перакладчыка. Яны прыўносілі ў атрад гвалт ці карысьлівасць, альбо і тое і іншае разам. Толькі на старарускіх землях, за Смаленскам, зніклі гэтыя спадарожнікі і з імі дапамога, якая падтрымлівала армію.



« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)